Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ
САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА
САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР

25 ЛІСТАПАДА 1929 г.
№ 13 (72)

V-ты год выданьня

ВЫДАНЬНЕ
КІРАЎНІЦТВА СПРАЎ СНК
І ЭКАНАМІЧНАЙ НАРАДЫ БССР
МЕНСК — 1929 г.

# З Ь М Е С Т

*Стар.*

## ПАПРАЎКА.

У Бюл. № 4 за г. г. у дадатку да паст. Экан. Нарады „Пра ўстанаўленьне норм кошту рабочага жылішчнага, школьнага і больнічнага будаўніцтва для акруг БССР“, на стар. 9, ва ўвазе да п. 17 надрукавана „...ліміты павялічваюцца на 1,5%...“, а трэба „...ліміты памяншаюцца на 1,5%...“

## 1. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

### пра пытаньне палепшаньня якасьці прадукцыі.

Заслухаўшы даклад Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР аб якасьці прадукцыі прамысловасьці, Эканамічная Нарада пры СНК БССР канстатуе:

1. Палепшаньне якасьці прадукцыі не дасягнута, а па цэламу шэрагу вытворчасьцяй наглядаецца нават пагоршаньне якасьці, асабліва ў мясцовай і саматужнай прамысловасьці.

2. Асноўнымі недахопамі якасьці прадукцыі, якія наглядаюцца яшчэ ў паасобных відах прамысловасьці, зьяўляюцца:

а) *па папяровай прамысловасьці*—недастаткова роўная абрэзка гільзавых бабін, малая моцнасьць пры разрыве, недабраякасная пакоўка, нераўнамернасьць у шчыльнасьці абояў, плямістасьць, недабраякасная абрэзка, нездавальняючая сартыроўка і праклейка пішчай паперы;

б) *па шкляной прамысловасьці*—нездавальняючая шліфоўка лямпавага шкла і нераўнамерная яе грубізна, недабраякасная сартыроўка шклянак, нездавальняючая апрацоўка прасаванага шкла, значны процант бою ў вытворчасьці;

в) *па лесаматарыялах*—паніжэньне сортнасьці піламатарыялаў, нездавальняючая сартыроўка і пакоўка фанэры;

г) *па швэйнай прамысловасьці*—недабраякасная апрацоўка фабрыкатаў: дрэнная прышыўка гузікаў, нізкая якасьць апошніх, нездавальняючая ачыстка зімовай вопраткі ад ваты, несуадпаведнасьць асартымэнту да сэзону і да запатрабаваньняў спажыўцоў (разьмер і інш.), нездавальняючая каляроўка футравага гарнітуру, пакоўка;

д) *па запалкавай прамысловасьці*—дрэнная аклейка каробак, недастатковае напаўненьне іх запалкамі (менш як 55 адзінак), недастатковая прасушка галовак, адхіленьне ад усесаюзных стандартаў;

е) *па скурана-абутковай прамысловасьці*—нездавальняючая афарбоўка шаўрэту, дэфэкты ў розных працэсах вытворчасьці (дубленьне, апрацоўка крою і інш.), дрэнная якасьць абутковай прадукцыі (недабраякаснае абрабленьне вырабаў, дрэнная ачыстка цьвікоў, крывыя абсацы і г. д.);

ж) *па галянтарэйных вырабах*—нездавальняючая якасьць грэбняў па фасонах, колеру, шліфоўцы, дрэнная апрацоўка скураных галянтарэйных вырабаў (дрэнная пашыўка іх, недабраякасныя замкі і інш.).

3. Асноўнымі прычынамі кепскай якасьці прадукцыі зьяўляецца:

а) пагоршаньне ў шэрагу выпадкаў якасьці сыравіны (хром для абутку, сыравіна для трыкатажных вырабаў і інш.);

б) недахопы, якія маюць месца ў самой вытворчасьці, менавіта: недастатковы ўнутры-заводзкі кантроль, недастатковы нагляд за выкананьнем прамысловых стандартаў, слаба разгорнутая сетка фабрычна-заводзкіх лябараторый, няўважлівыя адносіны да сартыроўкі і бракоўкі гатовых вырабаў, недастаткова разгорнутыя рацыяналізатарскія мерапрыемствы па падвышэньню якасьці прадукцыі, недастатковае тэхнічнае нармаваньне, імкненьне прадпрыемстваў да колькаснага эфэкту за лік пагоршаньня якасьці і інш.

4. Асабліва трэба падкрэсьліць усё яшчэ слабы ўдзел шырокіх працоўных мас у вытворчасьці (вытворчыя нарады і камісіі) па пытаньнях якасьці прадукцыі, недастатковае асьвятленьне гэтых пытаньняў у друку як агульным, так і ў насьценгазэтах, не разгорнута дастаткова сацыялістычнае спаборніцтва навокал пытаньняў палепшаньня якасьці паасобных вырабаў, ня прыцягнуты да гэтага часу працаўнікі прылаўку і інш.

Лічачы пытаньне якасьці прадукцыі пытаньнем першай важнасьці, Эканамічная Нарада пры СНК БССР, каб дабіцца рашучага пералому ў гэтай галіне, пастанаўляе:

1. Узмацніць унутры-заводзкі кантроль у паасобных стадыях вытворчасьці праз абавязковую арганізацыю ў 1929-30 годзе фабрычна-заводзкіх лябараторый па пляну Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і ўстаноўкі кантрольных прыладаў па вызначэньню працы паасобных апаратаў. Патрэбныя сродкі прадугледзіць у прамфінплянах трэстаў на бягучы аперацыйны год.

2. Праца фабрычна-заводзкіх лябараторый павінна мець ня толькі дасьледчы характар: яна павінна мець сьціслую сувязь з усімі працэсамі вытворчасьці—ад аналізу якасьці вытворчых матарыялаў, сыравіны і рэцэптуры да досьледаў правільнага ходу паасобных працэсаў, устанаўленьня прычын браку, угару, бою.

3. Узмацніць працу па складаньню стандартаў паасобных відаў сыравіны і гатовых вырабаў.

Усе ўстаноўленыя ўсесаюзныя стандарты на прадукцыю павінны бязумоўна ажыцьцяўляцца з устаноўленнага для іх Саветам Працы і Абароны тэрміну; на ўсіх прадпрыемствах павінен быць бесьперапынны кантроль за выкананьнем ўстаноўленых стандартаў.

4. Прадукцыя, якая выпушчаецца на рынак, павінна мець адзнаку аб яе адпаведнасьці патрабаваньням стандартаў на падставе папярэдніх аналізаў, абмераў і іншых іспытаў.

5. Запрапанаваць Белкапсаюзу і Белрабсэкцыі арганізаваць лябараторна-асартымэнтныя пункты па сыстэматычнаму нагляду за асартымэнтам спажывецкіх тавараў пры БКС, Віцебскім і Гомельскім саюзах спажывецкіх таварыстваў з удзелам адпаведных ЦРК у гэтай працы.

6. Увесьці ў паасобных галінах прамысловасьці дакладную бракоўку паўфабрыкатаў, не дапушчаючы далейшай апрацоўкі іх, пад асабістую адказнасьць бракоўшчыкаў; увесьці на прадпрыемствах бракоўку канчатковых вырабаў, удасканаліць сартыроўку і прыёмку іх, узмацніўшы адказнасьць за невыкананьне гэтых абавязкаў.

7. На прадпрыемствах павінны быць неадкладна распрацаваны мерапрыемствы па ўпарадкаваньню складзкай гаспадаркі (ўнутры-заводзкага транспарту ў сэнсе стварэньня ўмоў для належнага хаваньня сыравіны, матарыялаў і гатовых вырабаў (забясьпечыць іх ад вільготнасьці, забруджваньня) і падачы ў паасобныя вытворчыя працэсы.

8. Скасаваць шматлікавасьць форм тары, устанавіць мясцовыя (заводзка-трэстаўскія) стандарты тары і пакоўкі з пункту погляду захаваньня вырабаў ад псаваньня і рацыяналізацыі гэтай справы наогул.

9. У прамфінплянах прадпрыемстваў прадугледзіць паасобна тыя рацыяналізатарскія мерапрыемствы, якія могуць прывесьці да палепшаньня якасьці прадукцыі (устаноўка тых ці іншых апаратаў, зьмяненьне тэхналёгічных працэсаў, набыцьцё адпаведнага інструмэнтарыя, спэцыялізацыя прадпрыемстваў і г. д.).

10. Практыкаваць на ўсіх прадпрыемствах выстаўку ўзораў бракаваных вырабаў з паказаньнем прычын браку і мерапрыемстваў да іх зьнішчэньня.

11. Даручыць БКС і Белрабсэкцыі распрацаваць у 2-месячны тэрмін пытаньне аб мэтазгоднасьці арганізацыі ў Менску гандлёвага музэю.

12. Даручыць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі і НК Гандлю прагледзіць прэйс-куранты на паасобныя вырабы для ўстанаўленьня розных цэн на прадукцыю рознай якасьці.

13. Абавязаць вытворчыя арганізацыі рэспубліканскай, мясцовай і саматужнай прамысловасьці ўзмацніць удзел капярацыі ў распрацоўцы вытворчых праграм у мэтах прыстасаваньня асартымэнту (разьмеру, фасону і інш.) вырабаў да фактычнага патрабаваньня рынку.

14. Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі ажыцьцявіць мерапрыемствы па падвышэньню кваліфікацыі рабочых і пашырэньню на прадпрыемствах вытворчае прапаганды; да ўдзелу ў апошняй справе прыцягнуць калятывы інжынэрна-тэхнічных сіл праз іх прафсаюзныя арганізацыі.

15. Даручыць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі з удзелам ЦСПСБ арганізаваць на працягу бліжэйшага месяца на найбольш буйных і характэрных прадпрыемствах часовыя кантрольныя камісіі для спэцыяльнага вывучэньня пытаньняў якасьці прадукцыі з наступным абгаварэньнем вынікаў іх працы на шырокіх сходах рабочых.

16. Узмацніць удзел шырокіх рабочых мас у справе палепшаньня якасьці прадукцыі, практыкаваць абавязкова пэрыядычныя справаздачы дырэктароў паасобных прадпрыемстваў на вытворчых нарадах аб становішчы якасьці прадукцыі і судаклады членаў вытворчых і часовых кантрольных камісій і інжынэрна-тэхнічнай сэкцыі.

17. У заключаемых дагаворах сацыялістычнага спаборніцтва, у тым ліку і ў дагаварох паміж паасобнымі рабочымі, ставіць спэцыяльныя пункты, якія тычацца якасьці прадукцыі і якія характарызуюць дакладна абавязкі кожнага рабочага паасобна.

18. Пры заключэньні калектыўных дагавораў прадугледзіць мерапрыемствы да зьмяншэньня колькасьці браку, а таксама і кантроль за выкананьнем гэтых мерапрыемстваў.

19. Узмацніць ролю насьценных газэт і агульнага друку ў справе барацьбы за палепшаньне якасьці прадукцыі.

20. Практыкаваць скліканьне пэрыядычных нарад прадпрыемстваў, каперацыйных арганізацый і актыву рабочых па пытаньнях якасьці прадукцыі, а таксама вечары сустрэчы рабочых з спажыўцамі.

21. БКС і Белрабсэкцыі з удзелам ЦСПСБ распрацаваць мэтады ўцягненьня працаўнікоў прылаўку ў справу барацьбы за палепшаньне якасьці прадукцыі.

22. Для выкананьня гэтай пастановы даручыць Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі ў 2-тыднёвы тэрмін даць адпаведныя дырэктывы на месцы па лініі як рэспубліканскай, так і мясцовай прамысловасьці.

23. Запрапанаваць НК Гандлю ў месячны тэрмін распрацаваць пытаньне аб крымінальнай адказнасьці за выпуск з прамысловых прадпрыемстваў яўна недабраякаснай прадукцыі і праект адпаведнага закону ўнесьці ў СНК.

Старшыня Эканамічнай Нарады
пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнай Нарады БССР *М. Калевіч.*

12 лістапада 1929 г.

## 2. Пастанова Эканамічнай Нарады пры СНК БССР

### па пытаньню рэгуляваньня і плянаваньня паліваснабжэньня БССР.

Для плянаваньня і рэгуляваньня паліваснабжэньня, асабліва ў сучасны момант напружанасьці балянсу паліва, патрабуецца асаблівая яскравасьць узаемаадносін спажыўцоў паліва з органамі, плянуючым гэтае пытаньне.

А таму Эканамічная Нарада, скасоўваючы пастанову сваю за 30 студзеня 1928 г., пастанаўляе:

1. Усе спажыўцы паліва павінны падаваць у ВСНГ БССР:

а) плянавыя меркаваньні па паліва-энэргазадаволеньню штогод у тэрміны, устаноўленыя ВСНГ БССР;

б) штомесячныя заяўкі па данецкаму паліву за 28 дзён да пагрузкі на даны месяц, г. зн. 2-3 даты кожнага месяцу;

в) гадовыя справаздачы па паліву не пазьней 1 сьнежня кожнага году і

г) квартальныя справаздачы не пазьней 1 месяца і 7 дзён па сканчэньні справаздачнага кварталу.

2. Парадак падачы ў ВСНГ паказаных у пункце 1 матарыялаў вызначаецца наступны:

а) трэсты і гаспадарчыя адзінкі ВСНГ падаюць непасрэдна;

б) трэсты і прамкамбінаты мясцовага значэньня—праз акруговыя інспэкцыі мясцовай прамысловасьці, прычым па прамысловасьці акруговага значэньня зьвесткі даюцца не па прадпрыемствах, а па паасобных галінах прамысловасьці агулам па цэлай акрузе, а па прамысловасьці раённага значэньня—сумаю па акрузе без разьбіўкі па галінах прамысловасьці;

в) прадпрыемствы іншых наркаматаў—праз адпаведныя наркаматы;

г) наркаматы—непасрэдна;

д) каперацыйныя арганізацыі ўсіх відаў і грамадзкія арганізацыі—праз свае цэнтральныя органы.

3. Апроч зьвестак, паказаных у пункце 1, прадпрыемствы прамысловасьці мэталёвай, тэкстыльнай, хэмічнай, папяровай, шкляной, харчава-смакавай і вытворчасьці будаўнічых матарыялаў рэспубліканскага і акруговага значэньня (апроч раённага) павінны падаваць плянава-гадавыя, гадавыя і квартальныя справаздачы пра ўдзельны выдатак паліва на адзінку прадукцыі альбо на 1000 руб. у тэрміны, паказаныя ў п. 1.

4. Дровазагатоўчыя арганізацыі павінны падаваць у Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі свае гадавыя пляны загатоўкі і вывазу дроў у тэрміны, што ўстанаўляюцца Вышэйшым Саветам Народнай Гаспадаркі, а таксама штомесячныя справаздачы на працягу першага паўгодзьдзя і квартальныя—на працягу другога паўгодзьдзя, не пазьней аднаго месяца па сканчэньні справаздачнага пэрыяду.

5. Торпазагатоўчыя арганізацыі павінны падаваць у Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі свае гадовыя пляны загатовак торпу ў тэрміны, што ўстанаўляюцца Вышэйшым Саветам Народнае Гаспадаркі, а таксама гадовую справаздачу па загатоўцы торпу не пазьней 15 лістапада кожнага году.

6. Пераход з мясцовых відаў паліва (дроў, торпу) на мінэральнае паліва без спэцыяльнага кожны раз дазвозу Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі забараняецца.

Установы, прадпрыемствы і арганізацыі ў выпадку самавольнага пераходу на мінэральнае паліва, а таксама ў выпадку будаўніцтва новых прадпрыемстваў і будынкаў з мінэральным апалам без папярэд-

няга дазволу Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі, выключаюцца з плянавага палівазадаволеньня, а віноўныя ў гэтым службовыя асобы прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым або дысцыплінарным парадку.

7. У далейшым Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі даецца права непасрэдна ўстанаўляць аб'ём патрэбных зьвестак і парадак іх прадстаўленьня.

Старшыня Эканамічнай Нарады пры СНК БССР *М. Карклін.*

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР *М. Калевіч.*

12 лістапада 1929 г.

## 3. Інструкцыя Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР

### пра парадак прыёмкі скончаных будаўнічных работ.

1. Будаўнічыя арганізацыі перад сканчэньнем работ па пабудове будынкаў і будаваньняў паведамляюць будуючым органам аб часе сканчэньня работ для назначэньня камісіі для прыёмкі работ, прычым даюць кароткія зьвесткі аб кошце, аб'ёме, назначэньні, характары работ, месцы работ і падставах, паводле якіх работы выконваліся, з пералікам закрытых работ.

На ўсе закрытыя работы павінны быць акты з пэўным паказаньнем колькасьці і характару работ, складзеныя зацікаўленымі старанамі.

2. Будуючыя ведамствы ў залежнасьці ад аб'ёму і клясыфікацыі работ вылучаюць камісію ў складзе 5 або больш асоб з удзелам прадстаўнікоў грамадзкіх (прафсаюзных і інш.) арганізацый, сумесна з прадстаўнікамі будаўнічага кантролю, пажарнай аховы і санітарнага нагляду для прыёмкі скончаных поўнасьцю або, па погляду ведамства, якое назначае камісію, большай часткі работ.

Для прыёмкі работ менш 1000 куб. мтр. прысутнасьць прадстаўнікоў будаўнічага кантролю неабавязкова; для ўсіх іншых работ звыш паказанага мінімуму, а таксама прыёмкі работ, вылучаных у групу належачых паверачнаму нагляду за зьніжэньнем кошту будаўніцтва і ўсіх работ грамадзкага значэньня, прысутнасьць будаўнічага кантролю абавязкова.

3. Выдаткі па прыёмцы скончаных работ адносяцца за кошт будуючага ведамства або арганізацыі.

4. Прыёмка кожнага будаўніцтва павінна быць пачата не пазьней тыднёвага тэрміну пасьля атрыманьня заяўкі аб прыёмцы.

5. У канчатковым акце прыёмкі, які падпісваецца ўсімі членамі камісіі, павінны быць у сьціслай форме высьветлены ў паасобку наступныя пытаньні:

а) наяўнасьць зацьверджаных праектаў, рабочых рысункаў, рысункаў выкананых работ і разьлікаў паасобных канструкцый, ахапляючых будаўніцтва ў гатовым відзе;

б) адпаведнасьць скончанай пабудовы зацьверджанаму праекту і ўмовы, пры якіх дапушчаны ўхілы ў час правядзеньня работ ад праекту. Кім і калі санкцыянавана зьмена пляніроўкі будынкаў, паасобных канструкцый яго і рацыянальнасьць такіх зьмен;

в) наяўнасьць актаў абсьледваньня грунтаў пад будынкамі, якасьць вытворчасьці работ і наяўнасьць актаў абмеру работ, завераных подпісам адпаведнага кіраўніка работ, г. зн. спэцыялістага, вызначанага

з боку будуючага ведамства, для нагляданьня за работамі, правільнасьці занесеных у акты абмераў і колькасьці і характарыстыкі работ;

г) ці праведзены ў жыцьцё паказаньні, якія маюцца ў актах абсьледваньня, і які ўплыў мелі яны на палепшаньне якасьці работ; галоўныя і другарадныя дэфэкты па элемэнтах пабудовы і меры, прапануемыя камісіяй да іх зьнішчэньня;

д) заключэньне аб тым, па чыёй віне зроблены дэфэкт;

е) выкананьне дырэктыў Ураду аб парадку выдаткаваньня дэфіцытных матарыялаў;

ж) прыгоднасьць пабудовы да эксплёатацыі.

6. Па работах, узятых пад паверачнае нагляданьне па зьніжэньню кошту будаўніцтва прыёмачнай камісіяй, апроч паказанага ў п. 5 гэтае інструкцыі, павінны быць высьветлены яшчэ наступныя пытаньні:

а) кошт скончанага будаўніцтва ў цэлым, параўнаньне фактычнага кошту з папярэднімі каштарысамі і ўстанаўленьне прычын, выявіўшых перавыдатак або эканомію;

б) меры, прынятыя будуючымі органамі і будаўнічымі арганізацыямі для зьніжэньня кошту будаўніцтва (мэханізацыя, палегчаныя канструкцыі, стандарты вакон і дзьвярэй і інш.) з праверкай прадстаўленых разьлікаў і рысункаў;

в) у якой ступені выкананы ўсе дырэктывы аб зьніжэньні кошту будаўніцтва, з паказаньнем прычын іх невыкананьня.

7. Канчатковы прыёмачны акт разглядаецца і зацьвярджаецца органам, які назначае камісію, і на падставе акта выносіць свае пастановы аб адхіленьні выяўленых камісіяй дэфэктаў у даным будаўніцтве і для прыняцьця пад увагу пры ажыцьцяўленьні іншых будаўніцтваў у будучым.

8. Усе ўзьнікаючыя з актаў прыёмкі спрэчкі і рознагалосьсі паміж будуючымі і будаўнічымі арганізацыямі вырашаюцца: па тэхнічных пытаньнях—Камітэтам па Будаўніцтву, а па фінансавых—у арбітражным парадку.

9. Усе ведамствы, якія праводзяць будаўніцтва спэцыяльнага характару, як, напрыклад, ВСНГ, НК Гандлю і інш., могуць выдаваць больш падрабязныя інструкцыі прыёмкі скончаных будынкаў і будаваньняў, якія не супярэчаць гэтай інструкцыі.

Старшыня Камітэту па Будаўніцтву пры Эканамічнай Нарадзе БССР *А. Гейнэ.*

4 лістапада 1929 г.

Сакратар *М. Сецко.*

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак вярбоўкі рабочае сілы для сэзонных галін працы.

Для разьвіцьця пастановы ЦВК і СНК СССР за 4 сакавіка 1927 г. „Пра меры рэгуляваньня рынку працы“ („Изв. НКТ СССР“ за 1927 г. № 31), пастановы СНК СССР за 11 красавіка 1927 г. „Пра мерапрыемствы па рэгуляваньні вярбовачных апарацый“ („Изв. НКТ СССР“ за 1927 г. № 18), абежніку НКП, ВСНГ, НКШ СССР за 14 жніўня 1929 г. № 263 („Изв. НКТ СССР“ за 1929 г. № 36) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Для ўнясеньня плянавасьці ў справу забесьпячэньня сэзоннае галіны народнае гаспадаркі масавай і групавой рабочай сілай на тэры-

торыі БССР усе вярбовачныя апрацыі, зьвязаныя з наборам рабочае сілы для скарыстаньня на месцы, а таксама для вывазу з аднэй акругі ў другую і іншыя саюзныя рэспублікі, павінны праводзіцца выключна органамі Народнага Камісарыяту Працы.

2. Усялякая вярбоўка рабочае сілы гаспадарчымі органамі самастойна, а таксама ўвоз і вываз рабочае сілы з аднэй акругі ў другую альбо іншыя саюзныя рэспублікі бяз спэцыяльнага ў кожным паасобным выпадку дазволу органаў НКПрацы БССР забараняецца.

3. Вярбоўка рабочае сілы для вывазу за межы БССР у іншыя саюзныя рэспублікі, а таксама ўвоз яе ў БССР з іншых рэспублік можа рабіцца выключна з дазволу і па нарадах Народнага Камісарыяту Працы БССР.

4. У выключных выпадках, калі органы Народнага Камісарыяту Працы па тых або іншых прычынах ня могуць узяць на сябе вярбоўку рабочае сілы сваім апаратам, з дазволу акруговай інспэкцыі працы вярбоўка можа праводзіцца апаратам гаспадарчых органаў у спэцыяльна адведзеных раёнах і ў колькасьці, паказанай у заяўцы і зацьверджанай інспэкцыяй працы.

5. Органы НКПрацы праводзяць вярбоўку рабочае сілы на падставе спэцыяльных дагавораў, якія павінны заключацца імі з гаспадарчымі органамі за ўстаноўленую плату ў разьмеры ня больш фактычных выдаткаў, зьвязаных з утрыманьнем апарату для правядзеньня вярбовачных апрацый.

6. На акруговыя органы НКПрацы ўскладаецца абавязак праз вярбовачны апарат і карэспандэнцкія пункты, сумесна з камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі, пры садзейнічаньні органаў саюзаў сельгаслесрабочых і будаўнікоў арганізоўваць арцелі з ліку членаў саюзаў, батрацтва, беднаты і серадняцкага сялянства для скарыстаньня гэтых арцеляў на сэзонных работах (будаўніцтва, загатоўка лесу і дроў, сплаў, торпараспрацоўкі і інш.).

7. Гаспадарчыя органы абавязаны не пазьней двух месяцаў да пачатку работ падаць у адпаведныя органы працы арыентыровачныя заяўкі на патрэбную рабочую сілу з паказаньнем прафэсыі, спэцыяльнасьці патрэбных рабочых, месца і ўмоў работы, а не пазьней як за два тыдні—канкрэтную заяўку, па якой органы працы робяць вярбоўку. Па сканчэньні сэзону гаспадарчыя органы абавязаны падаць у органы працы даныя аб колькасьці скарыстанай рабочай сілы на сэзон.

8. У кожнай гаспадарчай арганізацыі павінна быць вылучана адказная за наём, скарыстаньне і звальненьне рабочае сілы асоба.

9. Вярбоўка рабоча-гужавой сілы (возчыкаў з коньмі) праводзіцца беспасрэдна гаспадарчымі органамі у раёнах, адведзеных для гэтае мэты, акруговымі інспэкцыямі працы пры непасрэдным удзеле камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі.

10. Віноўныя ў парушэньні гэтае пастановы прыцягваюцца да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці, паводле існуючых законапалажэньняў.

Нам. Народнага Камісара Працы
БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па рэгуляваньні рынку
працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

3 лістапада 1929 г.
№ 72.

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра зьмену „Палажэньня пра мясцовыя органы НКПрацы БССР“.

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зрабіць наступныя зьмены ў „Палажэньні пра мясцовыя органы НКПрацы БССР“ за 21 жніўня 1929 г. № 56 (Бюл. СНК 1929 г. № 9):

I. Арт. 13 скасаваць.

II. Артыкулы 14—70 лічыць артыкуламі 13—69.

III. Артыкул 70 запісаць так:

„70. Для рэгуляваньня адыходу сельскага насельніцтва на заработкі, інфармацыі сэзоньнікаў аб месцах патрэбы ў рабочай сіле, таксама для папярэджваньня неарганізаванага прытоку сэзоннай рабочай сілы ў гарады арганізуюцца карэспандэнцкія пункты“.

IV. Арт. 71 запісаць так:

„71. Сетка карэспандэнцкіх органаў, патрэбная для данай акругі, вызначаецца акруговай інспэкцыяй працы, узгадняецца з мясцовымі прафэсійнымі органамі і зацьвярджаецца НКПрацы БССР. Гэта сетка пераглядаецца ў залежнасьці ад зьмены разьмеру адыходу“.

V. Дадаць да Палажэньня артыкулы 72—85 наступнага зьместу:

„72. Карэспандэнцкія пункты арганізуюцца ў тых выпадках, калі колькасьць рабочых сэзоньнікаў, якіх трэба абслугоўваць у даным раёне, складае у мясцох адыходу ня менш 500 чал. У залежнасьці ад мясцовых умоў акруговыя інспэкцыі працы з дазволу НКПрацы БССР могуць арганізоўваць карэспандэнцкія пункты таксама і ў тых мясцовасьцях, дзе колькасьць асоб, якія прыходзяць альбо ўходзяць на заработкі, менш 500.

73. Работнікі карэспандэнцкіх пунктаў назначаюцца акруговымі інспэкцыямі працы з ліку прафэсійных работнікаў і іншых асоб, якія знаёмы з эканамічнымі ўмовамі абслугоўваемага раёну і становішчам мясцовага рынку працы. Як агульнае правіла, работа ў карэспандэнцкіх пунктах не павінна сумяшчацца з іншай работай.

74. Карэспандэнцкія пункты арганізуюцца на сэзон альбо дзейнічаюць увесь год у залежнасьці ад мясцовых умоў і ўтрымліваюцца на сродкі, што спэцыяльна адпушчаюцца для гэтай мэты НКПрацы БССР.

75. Карэспандэнцкія пункты ў мясцох адыходу знаходзяцца пры сельскім савеце альбо раённым выканаўчым камітэце і падтрымліваюць у сваёй рабоце сувязь з імі. У мясцох прыходу пункты павінны арганізоўвацца ў мясцох сгрупаваньня рабочых.

76. Карэспандэнцкія пункты вядуць сваю работу па паказаньнях акруговай інспэкцыі працы, як пры правядзеньні вярбовак, так і ў галіне пасрэдніцкіх функцый і інфармацыі аб адыходзе і прыходзе рабочых на заработкі. Акруговыя інспэкцыі працы systэматычна наглядаюць і праводзяць інструктаваньне карэспандэнцкіх пунктаў.

77. Не пазьней як за 2 месяцы да пачатку адпаведнага сэзону (будаўнічы, лесазагатоўчы, сплаўны, па торпараспрацоўках і інш.) карэспандэнцкія пункты павінны высьвятліць па спэцыяльнасьцях колькасьць асоб, якія жадаюць ісьці на заработкі як у межах свайго раёну, так і ў іншыя мясцовасьці. Гэтыя зьвесткі падаюцца ў адпаведную біржу працы. Біржы працы сводку па ўсёй акрузе падаюць у НКПрацы БССР.

78. Высьвятленьне колькасьці асоб, якія жадаюцьісьці на заработкі, робіцца праз гутаркі на сялянскіх сходах, праз абход сялянскіх двароў, таксама праз атрыманьне зьвестак у сельсаветах і раённых выканаўчых камітэтах.

Падлік асоб, якія жадаюць ісьці на заработкі, робіцца сумаю, але не індывідуальна.

79. Незалежна ад паданьня біржам працы адначаснай папярэдняй сводкі, карэспандэнцкія пункты падаюць штомесяц біржам працы зьвесткі аб колькасьці і прафэсійным складзе асоб, што пашлі на заработкі, з паказаньнем месц, куды яны накіраваны. Біржы працы падаюць штомесяц сумаваныя сводкі ў НКПрацы БССР.

80. Біржы працы рэгулярна пасылаюць карэспандэнцкім пунктам маючыяся заяўкі аб патрэбе ў сэзоннай рабочай сіле з паказаньнем ўмоў працы, мясцовасьцяй, прадпрыемстваў, якія маюць патрэбу ў сэзоннай рабочай сіле.

81. Інфармацыя мясцовага сельскага насельніцтва аб попыце на сэзонную рабочую сілу, таксама аб сутнасьці попыту, гэта значыць аб тым, куды не належыць накіроўвацца, робіцца праз вывешваньне абвестак у памяшканьнях раённых выканаўчых камітэтаў, сельскіх саветаў, хат-чытальняў і інш., таксама праз апавяшчэньні на сельскіх сходах і індывідуальныя гутаркі.

82. Пры атрыманьні вестак аб адсутнасьці попыту на рабочую сілу, карэспандэнцкія пункты павінны прыняць усе захады да адхіленьня ўходу рабочых у такія мясцовасьці.

83. Карэспандэнцкія пункты могуць рабіць апарацыі па вярбоўцы рабочай сілы на падставе чынных законаў выключна па заданьнях бірж працы таксама па заданьнях гаспадарчых органаў, узгодненых з біржамі працы.

На карэспандэнцкія пункты могуць быць ускладзены па спэцыяльных заданьнях акруговай інспэкцыі функцыі па ажыцьцяўленьні працоўнага пасрэдніцтва ў адносінах да прадпрыемстваў і ўстаноў, што знаходзяцца ў абслугоўваемым імі раёне; пры чым, на падлік могуць брацца беспрацоўныя, прадугледжаныя пастановай НКП СССР за 28 красавіка 1927 г. № 61 („Изв. НКТ“ 1927 г. № 13); падлік вядзецца толькі па сьпісках.

84. Па заканчэньні адпаведнага сэзону, карэспандэнцкія пункты павінны падлічваць адходнікаў, якія зьвярнуліся з заработкаў, высьвятляючы колькасьць і прафэсыі працаваўшых на працягу сэзону і мясцовасьці, дзе яны працавалі.

Гэты падлік вядзецца альбо з дапамогай сельскага савету альбо праз абход двароў і апытаньне адходнікаў. Карэспандэнцкія пункты павінны паведамляць асоб, якія ідуць на заработкі, аб тым, што ім можа быць дадзена льгота на праезд з скідкай да 50% да месца работы альбо для падшуканьня работы. Выдача льготнага праезду робіцца ў адпаведнасьці з інструкцыяй НКП СССР за 29 лютага 1929 г. № 143 („Изв. НКТ“ 1928 г. № 12/13).

85. З выданьнем гэтага палажэньня касуюцца: а) інструкцыі НКП БССР за 27 сакавіка 1925 г. „Аб дзейнасьці акруговых інспэкцый працы“, б) Палажэньне пра біржы працы і пра сэкцыі па найманьні падлеткаў пры біржах працы, зацьверджанае НКП БССР 27/IV 1925 г.; в) інструкцыя НКПрацы і НК Унутраных Спраў БССР за 19 лютага 1926 г. № 15 „Пра правы і абавязкі раённых упаўнаважаных па працы

і сацстрахаваньні“; г) інструкцыя НКП БССР за 12/VIII 1926 г. № 50 „Пра парадак ужываньня палажэньня аб органах па рэгуляваньні руху сялян, што адыходзяць на промыслы“.

*Увага.* П. „в“ арт. 85 узгоднены з НК Унутраных Спраў БССР“.

Нам. Народнага Камісара Працы
БССР *Д. Захарава.*

Старшы Інспэктар па рэгуляваньню рынку
працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

9 лістапада 1929 г.
№ 73.

## 6. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

### пра парадак вярбоўкі і забясьпечаньня рабочай сілай дрова-лесазагатовак і сплаву.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Для ўнясеньня плянавасьці ў справу забясьпечаньня дрова-лесазагатовак і сплаву рабочай сілай, уся работа па найму, вярбоўцы і забясьпечаньні дрова-лесазагатоўчых арганізацый на тэрыторыі БССР, канцэнтруецца ў органах НК Працы БССР.

2. Вярбоўка рабочае сілы для загатоўкі дроў і лесаматарыялаў, а таксама сплаву, як для забясьпечаньня мясцовага рынку працы, так і для вывазу па-за межы рэспублікі, робіцца спэцыяльным вярбовачным апаратам, які арганізуецца пры НК Працы, у асобе ўпаўнаважнага па дрова-лесазагатоўчаму рынку працы пры НК Працы, упаўнаважнага пры кожнай акруговай інспэкцыі працы і штату агэнтаў-вярбоўшчыкаў. Апарат гэты існуе на спэцыяльныя сродкі дрова-лесазагатоўчых арганізацый па паасобных дагаворах з імі на падставе маючыхся агульных дырэктыў па гэтым пытаньні.

Уся работа па вярбоўцы праводзіцца пры актыўным удзеле і садзейнічаньні органаў саюзу сельгаслесрабочых і камітэтаў сялянскае узаемадапамогі.

3. Вярбоўка рабочае сілы для загатоўкі дрова-лесаматарыялаў самастойна гаспадарчымі органамі можа рабіцца толькі, як выключэньне, і ня інакш, як з папярэдняга дазволу акруговай інспэкцыі працы з дасканальным вызначэньнем раёну вярбоўкі і ўстанаўленьнем максімальнае колькасьці рабочае сілы, якую дазваляецца вербаваць.

4. Вярбоўкай рабочай і гужавой сілы для вывазкі дроў і лесаматарыялаў (возчыкаў з коньмі) робіцца беспасрэдна гаспадарчымі органамі праз камітэты сялянскае ўзаемадапамогі пры актыўным садзейнічаньні агэнтаў вярбоўшчыкаў і карпунктаў.

Гэтае садзейнічаньне павінна рабіцца праз паведамленьне насельніцтва аб колькасьці патрэбных возчыкаў, тэрміне пачатку работы, а таксама праз непасрэдную дапамогу гаспадарчым органам пры вярбоўцы праз удзел на агульных сходах сялян і г. д.

5. Вярбоўка ўтвараецца ў поўнай адпаведнасьці з пастановай СНК СССР за 11 красавіка 1927 году „Аб мерапрыемствах па рэгуляваньні вярбовачных апарацый“ („Изв. НКТ“ 1927 г., № 18) і з інструкцыяй НК Працы СССР за 3 мая 1927 г., № 91 („Изв. НКТ“ 1927 г., № 19—20) і праводзіцца па плянах і заданьнях органаў НК Працы ў спэцыяльна адведзенных раёнах.

6. Скарыстаньне рабочае сілы на дрова-лесазагатоўках павінна праводзіцца на падставе пастановы Экам. Нарады пры СНК БССР за 30/XI 1926 г. (Бюл. СНК 1927 г., № 1).

## II. Парадак забясьпечаньня дрова-лесазагатовак і сплаву рабочай сілай.

7. Камплектаваньне дрова-лесазагатовак і сплаву рабочай сілай павінна праводзіцца арганізаваным парадкам, праз арганізацыю спэцыяльных арцеляй альбо груп драварубаў, шпалацёсаў, сплаўшчыкаў і інш. прафэсій з ліку беспрацоўных членаў саюзаў, бядняцкага і серадняцкага насельніцтва вёскі.

Бязумоўна, не дазваляецца ўключэньне ў арцелі альбо групы і скарыстаньне на дрова-лесазагатоўках і сплаве кулацкіх і заможных элемэнтаў.

8. Арцелі і групы арганізуюцца камітэтамі сялянскае ўзаемадапамогі, агэнтамі-вярбоўшчыкамі альбо карпунктамі і сельсаветамі пры беспасрэдным удзеле і садзейнічаньні мясцовых органаў саюзу сельгаслесрабочых.

9. На чале кожнае арцелі альбо групы павінен стаяць старшыня арцелі, альбо кіраўнік групы, якія абіраюцца членамі арцелі, альбо групы. Старшыні арцелі альбо кіраўнікі групы павінны, па магчымасьці, абірацца з ліку членаў саюзу, альбо з батрацка-бядняцкага актыву.

10. Агэнты-вярбоўшчыкі падтрымліваюць сувязь з арцельлю альбо групай праз яе старшыню альбо кіраўнікоў. Праз іх-жа праводзіцца выкліканьне на працу. Сувязь арцелі альбо групы з гаспадарчым органам (аб умовах працы і г. д.) праводзіцца таксама праз старшыню арцелі альбо кіраўнікоў груп.

Арцелі, па магчымасьці, павінны быць аднолькавымі па ліку членаў. Пры іх фармаваньні трэба імкнуцца да таго, каб арцель складалася ня менш, чым з 10 асоб.

11. На кожную арганізаваную арцель альбо групу складаецца імяны сьпіс па наступнай форме: 1) чарговы нумар; 2) прозьвішча, імя і імя па бацьку; 3) месца пражываньня; 4) пол; 5) членства ў саюзе; 6) сацыяльнае становішча (батрак, бядняк, серадняк, разьмер падатку). Сьпіс складаецца ў залежнасьці ад таго, кім арганізована арцель (К-т сялянскае ўзаемадапамогі, агэнт-вярбоўшчык і г. д.).

Адзін паасобнік імяннога сьпісу арцелі альбо групы, незалежна ад таго, кім яны арганізаваны, павінен знаходзіцца ў агэнта-вярбоўшчыка адпаведнага раёну і зьяўляецца матарыялам для падліку колькасьці рабсілы, якая скарыстана на дрова-лесазагатоўках і сплаве.

12. Каб забясьпечыць прыцягненьне і скарыстаньне на дрова-лесазагатоўках і сплаве беспрацоўных членаў саюзаў, батракоў і беднаты, павінны быць створаны для іх адпаведныя спрыяючыя ўмовы работы праз забясьпечаньне іх гаспадарчымі органамі начынньнем, жыльлём, і ў першую чаргу, і адводам лепшых дзялянак, выдачай авансаў і г. д.

## III. Парадак вярбоўкі рабсілы.

13. Вярбоўка рабочае сілы для дрова-лесазагатовак і сплаву праводзіцца агэнтамі-вярбоўшчыкамі альбо карпунктамі ў спэцыяльна адведзеных для іх раёнах. Разьмеркаваньне раёнаў праводзіцца ўпаўнаважнымі пры акруговай інспэкцыі працы.

Раёны набору рабсілы павінны быць адведзены з такім разьлікам, каб за лік наяўнае рабсілы, якая ёсьць у даным раёне, магчыма было-б забясьпечыць у першую чаргу дрова-лесазагатоўкі гэтых раёнаў.

14. Дадатковы адвод раёнаў набору рабочае сілы для здавальненьня патрэб той ці іншай арганізацыі ў выпадку недахопу рабсілы ва ўжо адведзеных раёнах робіцца распараджэньнем акруговага ўпаўнаважнага пры інспэкцыі працы ў адносінах да раёнаў, уваходзячых у адну акругу, і распараджэньнем НК Працы—у адносінах да раёнаў, уваходзячых у іншую акругу.

15. Набор рабочай сілы ў мясцох, беспасрэдна прылягаючых да месца дрова-лесазагатовак, можа рабіцца беспасрэдна дрова-загатоўчымі арганізацыямі пад кантролем і з дапамогай агэнтаў-вярбоўшчыкаў, або карпунктаў.

16. У выпадку нездавальненьня органамі НК Працы аперацыйнай заяўкі у паказаны у п. 5 тэрмін, мясцовым дрова-лесазагатоўчым арганізацыям даецца права самастойна вербаваць патрэбную тэрмінова рабсілу з абавязковым захаваньнем правіл сацыяльнага адбору, выключна у адведзеных для гэтага вучастку раёнах, з наступным паведамленьнем агэнта-вярбоўшчыка.

17. Рабочая сіла для вывазу па-за межы БССР можа вербавацца толькі па спэцыяльных заданьньях НК Працы БССР. Пры гэтым упаўнаважаны акруговай інспэкцыі працы павінен адводзіць для вярбоўкі найбольш адлеглыя ад мясцовых лесараспрацовак раёны, а таксама раёны, дзе ёсьць лішкі рабочае сілы, з такім разьлікам, каб вываз не адбіваўся на нармальным забясьпечаньні рабочай сілай мясцовых лесазагатовак.

18. Пры вярбоўцы рабочых павінна быць зьвернута самая сур'ёзная ўвага на іх фізычную прыгоднасьць, а таксама кваліфікацыю. У паасобных выпадках дазваляецца правядзеньне спэцыяльнага мэдычнага агляду праз амбуляторыі альбо мэдыцынскія пункты тых рабочых, якія пасылаюцца на работу на вялікую адлегласьць ад месца сталага пражываньня.

19. Агэнты-вярбоўшчыкі пры адборы рабсілы для накіраваньня на работу павінны падрабязна інфармаваць рабочых аб характары і ўмовах работы, а таксама выдаваць ім у адпаведных выпадках пад расьпіску задаткі з авансавых сум, якія агэнты-вярбоўшчыкі атрымоўваюць для гэтае мэты ад гаспадарчых органаў.

Задаткі, як агульнае правіла, павінны выдавацца асабіста кожнаму завербаванаму рабочаму. Не дазваляецца выдача задаткаў старшыні арцелі альбо кіраўніку групы з даручэньнем раздаць іх членам арцелі альбо групы, без спэцыяльнай даверанасьці ад члена арцелі альбо групы.

20. Перавозка рабочых да месца работы па чыгунцы аплачваецца гаспадарчымі органамі. У тых выпадках, калі праезд не аплачваецца гаспадарчым органам, перавозка дрова-лесазагатоўчых рабочых па чыгунцы робіцца па ўстаноўленаму НК Шляхоў льготнаму тарыфу для перавозак сэзоных рабочых (форма № 87). Бланкі льготнага тарыфу выдаюцца агэнтамі-вярбоўшчыкамі альбо карпунктамі ў агульным парадку.

21. Накіраваньне арцеляй альбо груп у распараджэньне гаспадарчага органу для выкананьня работы праводзіцца агэнтам-вярбоўшчыкам альбо карпунктам па спэцыяльных пуцёўках, у якіх паказваецца прозьвішча старшыні арцелі альбо кіраўніка групы, колькасьць асоб і сума выдадзеных задаткаў.

Карэнчык пуцёўкі зьвяртаецца гаспадарчым органам агэнту-вярбоўшчыку альбо карпункту, што зьяўляецца пацьвярджэньнем прыбыцьця арцелі альбо групы на работу.

## IV. Парадак атрыманьня зьвестак аб патрэбе ў рабочай сіле.

22. Арыентыровачныя зьвесткі аб патрэбе ў рабочай сіле для дровазагатовак з разьбіўкай па акругах, месяцах і прафэсіях, вылічаныя на падставе вытворчых праграм і нормаў выпрацоўкі, падаюцца цэнтральнымі дрова-лесазагатоўчымі арганізацыямі у НК Працы БССР за 2 месяцы да пачатку сэзону.

23. Не пазьней, як за месяц да пачатку сэзону, акруговыя і прыроўненыя да іх лесазагатоўчыя арганізацыі падаюць акруговым інспэкцыям працы дакладныя заяўкі на патрэбную рабсілу па паасобных раёнах. Прарабы альбо начальнікі вучасткаў павінны не пазьней, як за 2 тыдні да пачатку сэзону, падаць агэнтам вярбоўшчыкам альбо карпунктам дакладныя заяўкі на патрэбную рабочую сілу па паасобных вучастках з разьмеркаваньнем па месяцах і прафэсіях.

24. Аб усіх зьменах у арыентыровачных і дакладных зьвестках, зьмяняючых у той альбо іншы бок патрэбу ў рабочай сіле, у сувязі з зьменамі ў прамфінпляне і заданьнях, арганізацыі паведамляюць НК Працы і яго мясцовыя органы не пазьней як за 10 дзён да падачы дадаткавай аперацыйнай заяўкі.

25. Аперацыйныя заяўкі з паказаньнем дакладнай колькасьці патрэбнай рабочай сілы па паасобных прафэсіях, тэрміны і характар работы, таксама іншыя ўмовы працы, накіроўваюцца мясцовымі органамі лесазагатоўчых арганізацый мясцовым органам НКПрацы (акруговаму ўпаўнаважнаму, агэнтам-вярбоўшчыкам), пры чым групавыя заяўкі на лесарубаў органы НКПрацы павінны задавальняць не пазьней 6 дзён, а па астатніх прафэсіях не пазьней 7 дзён з моманту атрыманьня заяўкі.

Паказаныя тэрміны не датычацца рабочае сілы дэфіцытных прафэсій (клепары, сьпіцары, шпалацёсы і інш.) як у БССР, таксама і ўвазімай з-за мяжы рэспублікі.

Нерабочыя дні ў тэрміны, паказаныя ў гэтым пункце, не залічваюцца.

26. Усе дрова-лесазагатоўчыя арганізацыі павінны вылучаць як у цэнтральным сваім апараце, таксама і ў мясцовых органах, па аднаму адказнаму работніку, які загадвае пытаньнямі найму і скарыстоўваньня рабочае сілы, на якога ўскладаецца абавязак падтрымліваньня сыстэматычнай сувязі з мясцовымі органамі НК Працы. Прозьвішчы гэтых асоб паведамляюцца адпаведным мясцовым органам НКПрацы.

27. Дрова-лесазагатоўчыя арганізацыі павінны загадзя, але не пазьней як за 2 тыдні да пачатку сэзону, паведаміць НКПрацы і яго мясцовыя органы аб падрабязных умовах найму рабочае сілы (разьмер аплаты, характар работы, жыльлёвыя ўмовы, забясьпечаньне струмэнтам, харчаваньне, умовы праезду і г. д.), а таксама копію калектыўнага дагавору, зробленага з прафсаюзам сельгаслесрабочых, тэхнічных умоў працы і тыповага працоўнага дагавору.

## V. Абавязкі акруговых упаўнаважаных і агэнтаў-вярбоўшчыкаў.

28. У абавязкі акруговага ўпаўнаважанага па дрова-лесазагатоўчаму рынку працы пры інспэкцыі працы ўваходзіць: а) рэгуляваньне дровалесазагатоўчага рынку працы ў межах свае акругі; б) падзяленьне

раёнаў набору рабочае сілы для паасобных лесазагатоўчых арганізацый; в) выяўленьне патрэбы ў дрова-лесазагатоўчых рабочых; г) высьвятленьне наяўнасьці па акрузе лесазагатоўчых рабочых і сплаўшчыкаў; д) устанаўленьне дэфіцыту, альбо лішкаў у рабочай сіле ў межах акругі і ў адпаведнасьці з гэтым дача матываваных заявак ў НК Працы аб магчымасьці вывазу альбо патрэбы ў прывозе рабочае сілы; е) практычнае кіраваньне, інструктаваньне і нагляд за дзейнасьцю агэнтаў-вярбоўшчыкаў у раёнах праз непасрэдны аб'езд вучасткаў, дзе праводзяцца дрова-лесазагатоўчыя работы; ж) праверка ступені выкананьня дырэктыў аб парадку набору рабочае сілы і захаваньні клясавага прынцыпу пры наборы; з) падтрыманьне непасрэднае сувязі з гаспадарчымі дрова-лесазагатоўчымі арганізацыямі; і) падача ў НК Працы сводак, справаздач і іншых матарыялаў ва ўстаноўленыя тэрміны.

29. У абавязкі агэнтаў-вярбоўшчыкаў уваходзіць: а) фармаваньне арцеляй і груп лесарубаў пры ўдзеле нізавых арганізацый прафсаюзу сельгаслесрабочых і камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі і беспасрэднае забясьпечаньне імі дрова-лесазагатовак свайго вучастку; б) высьвятленьне патрэбы ў дрова-лесазагатоўчых рабочых свайго вучастку; высьвятленьне наяўнасьці лесазагатоўчых рабочых у раёне; в) устанаўленьне дэфіцыту альбо лішкаў рабочае сілы ў межах раёну і ў адпаведнасьці з гэтым дача матываваных заявак акруговаму ўпаўнаважанаму аб магчымасьці вывазу, альбо патрэбы ўвозу рабсілы; е) правядзеньне вярбовачных апарацый па заданьнях акруговага ўпаўнаважанага для задавальненьня патрэб іншых раёнаў акругі, а таксама для адпраўкі ў іншыя акругі і за межы БССР; д) дапамога гаспадарчым дрова-лесазагатоўчым арганізацыям па набору праз камітэты сялянскае ўзаемадапамогі возчыкаў з коньмі; е) непасрэднае ажыцьцяўленьне дырэктыў аб прыцягненьні і першачарговым прадастаўленьні работы беспрацоўным членам саюзаў, батрацтву, бядняцкаму і серадняцкаму насельніцтву, а таксама поўнае аддзяленьне загатоўкі дрова-лесаматарыялаў ад возкі; д) прадстаўленьне сводак, справаздач і іншых матарыялаў акруговаму ўпаўнаважанаму пры інспэкцыі працы ва ўстаноўленыя тэрміны.

30. Агэнты-вярбоўшчыкі складаюць раздатачныя сьпісы асоб, якія атрымалі задаткі, і накіроўваюць іх сумесна з расьпіскамі атрымальнікаў альбо з даверанасьцямі рабочых на атрыманьне задаткаў. Даверанасьці павінны быць завераны мясцовымі савецкімі органамі (РВК, сельсавет), альбо прафэсійнымі арганізацыямі. Раздатачныя сьпіскі аб атрыманьні задаткаў падаюцца ў мясцовыя органы дрова-лесазагатоўчых арганізацый, якія павінны праверыць правільнасьць разьліку ў двухтыднёвы тэрмін з моманту іх атрыманьня.

У выпадку неатрыманьня ад мясцовых гаспадарчых органаў паказаньня на няправільнасьць прадстаўленых апраўдальных дакумантаў у паказаны вышэй двохтыднёвы тэрмін, мясцовыя органы працы лічаць іх правільнымі.

31. Агэнты-вярбоўшчыкі, а таксама карпункты абавязаны праз кожныя 10 дзён падаваць упаўнаважанаму пры акруговай інспэкцыі працы зьвесткі аб становішчы і ходзе работы па забясьпечаньні дрова-лесазагатовак рабочай сілай і раёну іх дзейнасьці. У гэтых паведамленьнях павінны быць паказаны колькасьць арганізаваных арцеляй, колькасьць пасланых на работу, колькі фактычна працуе, а таксама даныя аб магчымасьці вывазу рабочае сілы па прафэсіях і спэцыяльнасьцях.

32. Акруговыя ўпаўнаважаныя пры інспэкцыі працы абавязаны праз кожныя 10 дзён (12, 22 і 2 кожнага месяца) падаваць у Народны Камісарыят Працы зьвесткі аб становішчы і ходзе работы па забясьпечаньні дрова-лесазагатовак у межах усёй акругі, з падрабязным асьвятленьнем кан'юнктуры на дрова-лесазагатоўчым рынку працы.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Ст. Інспэктар па Рэгуляваньні Рынку Працы НКП БССР *С. Мышалаў.*

Узгоднена з { ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых—*Эльперын.*
Лясбелам—*Школьнікаў.*

9 лістапада 1929 г.
№ 74.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра аплату адказных палітычных работнікаў, якія працуюць у партыйных, прафэсійных, савецкіх, гаспадарчых, каперацыйных і іншых арганізацыях.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

I. Устанавіць з 1 кастрычніка 1929 году аплату адказных палітычных работнікаў:

па 2-му поясу—гарады Менск, Віцебск, Гомель—16 руб. 50 к. для 1 разраду;

па 3-му поясу—усе іншыя акруговыя гарады і астатнія мясцовасьці БССР—15 руб. 25 к. для 1 разраду.

II. Устанавіць для тых адказных палітычных работнікаў, якія па характару іх работы выконваюць у няслужбовы час работу, якая ня можа быць падлічана,—надбаўку ў разьмеры да 50 проц. іх асноўных акладаў, паводле наступнай прыкладнай схэмы:

Для 10 разраду—10 проц.
„ 11 „ —15 „
„ 12 „ —20 „
„ 13 „ —25 „

Для 14 разраду—30 проц.
„ 15 „ —40 „
„ 16 „ —45 „
„ 17 „ —50 „

Нагрузка, якая ўстаноўлена гэтым артыкулам, зьяўляецца максымальнай і можа быць зьменена кіраўніком адпаведнае ўстановы альбо арганізацыі ў залежнасьці ад фактычнай нагрузкі таго або іншага работніка.

III. У адпаведнасьці з артыкуламі 1 і 2 гэтае пастановы, устанаўляюцца наступныя стаўкі (з акругленьнем):

| Разрад | Суадносіны | Максымальны % нагрузкі | II пояс | | III пояс | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Увесь аклад | У тым ліку асн. | Увесь аклад | У тым ліку асн. |
| 17 | 8 | 50 | 198 | 132 | 183 | 122 |
| 16 | 7,2 | 45 | 172 | 119 | 160 | 109 |
| 15 | 6,7 | 40 | 155 | 110 | 143 | 102 |
| 14 | 6,2 | 30 | 133 | 102 | 123 | 94 |
| 13 | 5,5 | 25 | 113 | 90 | 104 | 84 |
| 12 | 5 | 20 | 99 | 82 | 91 | 76 |
| 11 | 4,6 | 15 | 87 | 76 | 81 | 70 |
| 10 | 4,2 | 10 | 76 | 69 | 70 | 64 |

IV. Па тарыфу адказных палітычных работнікаў павінны аплачвацца выключна палітычныя работнікі, якія прымаюць адказны ўдзел у справе партыйнага, прафэсійнага, савецкага, гаспадарчага і каперацыйнага будаўніцтва і адказваюць, ня толькі за тэхнічнае выкананьне ўскладзеных на іх абавязкаў, але зьяўляюцца адказнымі за палітычнае і ідэйнае правядзеньне ўскладзеных на іх абавязкаў. Асобы, якія выконваюць толькі адміністрацыйна-тэхнічныя альбо спэцыяльна тэхнічныя работы і не нясуць адказнасьці за ідэйны і палітычны напрамак гэтае працы—аплачваюцца альбо па нармаваных стаўках, па стаўках, устаноўленых калектыўнымі дагаворамі і тарыфнымі згодамі, альбо ў парадку пэрсанальных акладаў—але ні ў якім разе не па тарыфу адказных палітычных работнікаў.

V. Адказныя палітычныя работнікі, якія працуюць ва ўстановах, што знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюджэце і ў іншых установах, дзе таксама праведзена дзяржаўнае нармаваньне зарплаты, аплачваюцца па стаўках, зацьверджаных дзяржнармаваньнем.

VI. Стаўкі, устаноўленыя паводле арт. 3 гэтае пастановы, зьяўляюцца максымальным разьмерам узнагароды адказных палітычных работнікаў і выплата ніжэй гэтых ставак не зьяўляецца нарушэньнем законадаўства.

Асобы, якія аплачваюцца па гэтых стаўках, ня маюць права на якія-небудзь дадатковыя ўзнагароды (аплата па сумяшчэньні, за ўдзел у пасяджэньнях і г. д.), апроч аплаты за літаратурныя працы і выкладаньні, калі гэта не ўваходзіць у кола абавязкаў па выконваемай імі працы.

VII. Кватэрная плата адказных палітычных работнікаў вылічваецца толькі з іх асноўнай стаўкі, паводле арт. 3 гэтай пастановы, у адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК БССР за 23-II—1929 г. (З. З. БССР 1929 г. № 11, арт. 58).

VIII. Разьмеркаваньне адказных палітычных работнікаў па тарыфных разрадах робіцца беспасрэдна кіраўнікам установы, прадпрыемства альбо арганізацыі, паводле наступнай разьбіўкі:

### А. Разьмеркаваньне адказных палітычных работнікаў партыйных арганізацый.

17 разрад.

1. Сакратары ЦК КП(б)Б.
2. Загадчыкі самастойных аддзелаў ЦК КП(б)Б.
3. Сакратары ўсіх акругкомаў КП(б)Б.
4. Загадчыкі арг. аддзелаў і АПАД усіх АК КП(б)Б.
5. Члены ЦК КП(б)Б (сталыя работнікі ЦКК).
6. Старшыні і адказныя сакратары ўсіх акруговых кантрольных камісій КП(б)Б.

16 разрад.

7. Адказныя інструктары ЦК і ЦКК КП(б)Б.
8. Намесьнікі загадчыкаў самастойных аддзелаў ЦК КП(б)Б.
9. Загадчыкі інформацыйнай, сакрэтнай і грашовай часткі ЦК КП(б)Б.
10. Сакратары Нац. Бюро ЦК КП(б)Б.
11. Кіраўнік спраў ЦК КПБ(б)Б.
12. Сакратар ЦК ЛКСМБ.
13. Сьледчы парт. калегіі ЦКК.

14. Загадчыкі іншых аддзелаў акруговых камітэтаў КП(б)Б (загадчыкі аддзелу па працы на вёсцы, загадчыкі жанаддзелу АК КП(б)Б.

15. Сакратары гарадзкіх райкомаў КП(б)Б у Менску, Віцебску і ў Гомелі.

15 разрад.

16. Інструктары ўсіх аддзелаў ЦК КП(б)Б (аддзелу па працы на вёсцы, АПАД, жанаддзелу), і інструктары Нац. Бюро ЦК КП(б)Б.

17. Намесьнікі загадчыкаў пададдзелаў ЦК КП(б)Б.

18. Намесьнікі загадчыкаў аддзелаў акругкомаў КП(б)Б.

19. Інструктары ўсіх АК КП(б)Б.

20. Сакратары гарадзкіх раённых камітэтаў КП(б)Б 3-га поясу.

21. Загадчыкі аддзелаў усіх гарадзкіх камітэтаў КП(б)Б (АПОРГ, Арг. аддзел, Жанорг.).

14 разрад.

22. Інструктары аддзелаў усіх акругкомаў КП(б)Б (вясковага аддзелу, жанаддзелу), інструктары нац. бюро АК.

23. Загадчыкі інфармацыі АК КП(б)Б, кіраўнікі спраў АК.

*Увагі*: 1. Работнікі арганізацый ЛКСМБ тарыфікуюцца на 2 разрады ніжэй за работнікаў адпаведных партыйных арганізацый.

2. Адказныя работнікі райкомаў КП(б)Б у сельскіх мясцовасьцях атрымліваюць стаўкі, якія ўстанаўляюцца для адпаведных работнікаў райвыканкомаў.

3. Адказныя сакратары фабрычна-заводзкіх ячэек атрымліваюць па сярэдніх стаўках кваліфікаванага рабочага гэтага прадпрыемства.

**Б. Разьмеркаваньне адказных палітычных работнікаў прафэсійных арганізацый.**

17 разрад.

1. Члены Прэзыдыуму ЦСПСБ (сталыя работнікі), загадчыкі самастойных аддзелаў ЦСПСБ.

2. Старшыні і сакратары цэнтральных праўленьняў прафсаюзаў.

3. Старшыні і адказныя сакратары ўсіх акруговых бюро прафсаюзаў.

16 разрад.

4. Загадчыкі аддзелаў цэнтральных праўленьняў прафсаюзаў (сталыя работнікі).

5. Члены прэзыдыуму і загадчыкі аддзелаў акруговых бюро прафсаюзаў.

6. Нам. загадчыкаў аддзелаў ЦСПСБ.

7. Інструктары ЦСПСБ.

8. Старшыні акруговых аддзяленьняў прафсаюзаў.

15 разрад.

9. Інструктары цэнтральных праўленьняў прафсаюзаў.

10. Старшыні і члены праўленьняў (сталыя работнікі) акруговых аддзяленьняў прафсаюзаў.

*Увагі*: 1. Старшыні і работнікі раённых бюро прафсаюзаў у сельскіх мясцовасьцях аплачваюцца па стаўках адпаведных работнікаў райвыканкомаў.

2. Выбарныя работнікі фабрычна-заводзкіх камітэтаў і іншых нізавых профячеек (сталыя работнікі) аплачваюцца па стаўках, якія ўстанаўляюцца адпаведна з цэнтральнымі альбо акруговымі праўленьнямі профсаюзаў па каштарысах ў адпаведнасьці з колькасьцю аб'яднаных імі членаў і грашовых магчымасьцяй.

**В. Разьмеркаваньне адказных палітычных работнікаў савецкіх, гаспадарчых і каперацыйных устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый.**

17 разрад.

1. Члены прэзыдыуму ЦВК БССР (сталыя работнікі).
2. Члены СНК і Эканамічнай Нарады.
3. Намесьнікі наркомаў, члены калегіі і члены прэзыдыуму ВСНГ.
4. Члены Падрыхтоўчай Камісіі СНК БССР і члены Прэзыдыуму Дзяржаўнай Плянавай Камісіі.
5. Начальнікі асноўных функцыянальных кіраўніцтваў і загадчыкі самастойных аддзелаў устаноў рэспубліканскага значэньня.
6. Інспэктары—адказныя палітычныя выканаўцы народных камісарыятаў і рэспубліканскіх устаноў.
7. Старшыня і члены Найвышэйшага Суда.
8. Памочнік Пракурора Рэспублікі.
9. Упаўнаважаныя агульна-саюзных наркаматаў пры Ўрадзе БССР.
10. Старшыні і намесьнікі старшынь акруговых выканаўчых камітэтаў.
11. Кіраўнікі і намесьнікі кіраўнікоў рэспубліканскіх трэстаў і ўпаўнаважаныя агульна-саюзных трэстаў і сындыкатаў, дырэктары самастойных гаспадарчых адзінак.
12. Члены праўленьняў (сталыя работнікі) і члены рэвізійных камісій (сталыя работнікі) усіх усебеларускіх каперацыйных аб'яднаньняў.
13. Члены ведамсьцьвенных і міжведамсьцьвенных камітэтаў і камісій урадавых органаў.
14. Дырэктары прадпрыемстваў з лікам рабочых звыш 500.
15. Члены праўленьняў банкаў рэспубліканскага і агульна-саюзнага значэньня.
16. Дырэктары і іх намесьнікі навуковых устаноў і інстытутаў рэспубліканскага значэньня.
17. Рэктары і іх намесьнікі і прарэктары вышэйшых навучальных устаноў і загадчыкі рабочых факультэтаў.
18. Адказныя рэдактары і іх намесьнікі рэспубліканскіх газэт.

16 разрад.

19. Члены прэзыдыумаў усіх акруговых выканаўчых камітэтаў і загадчыкі асноўнымі аддзеламі акрвыканкомаў.
20. Акруговыя інспэктары.
21. Намесьнікі загадчыкаў функцыянальных кіраўніцтваў і аддзелаў наркаматаў і ўстаноў рэспубліканскага значэньня.
22. Інспэктары—адказныя палітычныя выканаўцы народных камісарыятаў і рэспубліканскіх устаноў.
23. Памоч. пракурора НКЮ.
24. Акруговыя пракуроры і іх намесьнікі, старшыні і намесьнікі старшынь акруговых судоў.
25. Сьледчыя па важнейшых справах пры НКЮ.
26. Кіраўнікі і іх намесьнікі трэстаў мясцовай прамысловасьці.

27. Члены праўленьняў і старшыні рэвізійных камісій (сталыя работнікі) акруговых аб'яднаньняў усіх відаў капярацыі.
28. Члены праўленьняў і рэвізійных камісій (сталыя работнікі) Менскага, Віцебскага і Гомельскага цэнтральных рабочых каператываў і старшыні праўленьняў ЦРК астатн. акруг.
29. Інструктары беларускіх каперацыйных аб'яднаньняў.
30. Дырэктары прадпрыемстваў з лікам рабочых да 500 і намесьнікі дырэктароў усіх прадпрыемстваў.
31. Кіраўнікі акруговых аддзяленьняў банкаў.
32. Адказныя рэдактары акруговых газэт.
33. Начальнікі акруговых кіраўніцтваў працкаляктываў.
34. Старшыні акруговых камітэтаў страхавых кас.
35. Інструктары ЦВК.

16 р а з р а д.

36. Нам. загадчыкаў акруговых аддзелаў акрвыканкомаў.
37. Члены акруговых судоў.
38. Сьледчыя пры акруговых судох.
39. Праўныя і сельска-гаспадарчыя інспэктары працы і загадчыкі акруговых бірж працы.
40. Члены праўленьняў і рэвізійных камісій (сталыя работнікі) цэнтральных рабочых каператываў акруг 3-га поясу.
41. Члены камітэтаў страхавых кас.

*Увага.* Работнікі раённых, гаспадарчых, каперацыйных і іншых арганізацый аплачваюцца па стаўках, зацьверджаных іх каштарысамі, але ня вышэй ставак адпаведных пасад работнікаў райвыканкомаў.

IX. Аплата разьездных, камандыровачных і іншых відаў кампэнсацыі для адказных палітычных работнікаў робіцца з разьліку іх поўнага акладу, гэта зн. і платы за нагрузку.

X. Асобы, віноўныя ў зьмене ўстаноўленых гэтай пастановай разрадаў або якія аплачваюць па гэтых стаўках асоб, непрадугледжаных гэтай пастановай, прыцягваюцца да адпаведнае адказнасьці.

XI. З выданьнем гэтае пастановы касуецца пастанова НКП БССР за 22 сьнежня 1925 году „Пра аплату адказных палітычных работніхаў, якія працуюць у прафэсійных, савецкіх, гаспадарчых і іншых арганізацыях“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Тарыфны Інспэктар НКП БССР *Л. Эпштэйн.*

Узгоднена з ЦСПСБ: Загадчык Тарыфна-Экан. Аддзелу *З. Каган.*

14 лістапада 1929 г.
№ 75.

---

## 8. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### пра тлумачэньне судовых загадаў пры выяўленьні перашкод для іх выкананьня.

*Усім судовым і пракурорскім органам.*

Арт. 461 КПК прадугледжвае парадак вырашэньня ўсялякага роду непаразуменьняў і спрэчак, узьнікаючых пры выкананьні прыгавару суда, паводле якога артыкулу такія спрэчкі павінны разглядацца судом, які вынес даны прыгавар.

Далей, у арт. 462 КПК паказана, што пытаньні, прадугледжаныя арт. 461-м, вырашаюцца судом у судовым пасяджэньні з паведамленьнем пракурора і асуджанага.

У зьвязку з гэтым узьнікла пытаньне, як паступіць з судовым загадам, калі пры яго выкананьні спаткаюцца перашкоды, бо судзагад— асноўная пастанова па справе—выносіцца адным судзьдзёй, а ўжо тлумачэньне судзагаду і парадак яго выкананьня (растэрмінаваньне, адтэрмінаваньне штрафу і г. д.), як быццам, на падставе арт. 462 КПК павінен вырашаць суд у поўным складзе, з удзелам старон і з паведамленьнем абвінавачанага. У гэтым некаторыя судпрацаўнікі ўгледжваюць некаторую непасьлядоўнасьць закону.

Між тым, супярэчнасьці і непасьлядоўнасьці ў гэтым выпадку ня ўгледжваюцца з наступнага:

1) У арт. 461 КПК маецца яскравае паказаньне, што вырашаць пытаньні, зьвязаныя з парадкам выкананьня прыгавару, павінен той суд, які выносіць прыгавар. Гэта значыць, што і адносна судзагаду ўсялякія тлумачэньні таксама выносіць суд, які выдаў судзагад. Суд-жа ў даным выпадку складаецца з аднае асобы—нарсудзьдзі (з прычыны яскравасьці і бясспрэчнасьці справы), значыць, гэты самы суд і павінен тлумачыць вынесены ім судзагад.

2) Арт. 462 таксама не супярэчыць такому тлумачэньню пытаньня, бо і судзагады выносяцца ў адчыненых судовых пасяджэньнях, а няўка зацікаўленых асоб (абвінавачанага, грам. ісца і інш.) і па 462 арт. КПК не прыпыняе разгляду пытаньня.

З таго, што на практыцы ўгледжваецца шмат выпадкаў, калі тлумачэньне судовых загадаў адбываецца ў поўным складзе суду (з 3-х асоб, г. зн., у прысутнасьці народных засядацеляў, якіх пры выняценьні судзагаду ня было, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе мець на ўвазе выкладзенае вышэй тлумачэньне, бо практыкуемы некаторымі нарсудамі парадак супярэчыць сэнсу закону і стварае валакіту.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР. *П. Валасевіч.*

31 кастрычніка 1929 г.

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**пра парадак прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці паўналетніх дзяцей за злоснае ўхіленьне ад уплаты алімэнтаў сваім непрацаздольным бацьком.**

*Усім акруговым пракурорам і акруговым судам.*

З практыкі народных судоў і пракуратуры наглядаецца пашырэньне выпадкаў злоснага ўхіленьня ад уплаты сродкаў на ўтрыманьне непрацаздольных бацькоў іх паўналетнімі дзецьмі, з якіх прысуджаны алімэнты на падставе арт. 66 Код. Зак. аб Шлюбе, Сям'і і Апецы, што ставіць у вельмі цяжкае становішча старых непрацаздольных бацькоў.

Лічачы такое пакіданьне старых дзецьмі без усялякай дапамогі ў той час, як яны могуць гэтую дапамогу аказаць, дзеяньнем сацыяльна-небясьпечным і прымаючы пад увагу, што барацьбе з гэтым зьявішчам перашкаджае адсутнасьць простага паказаньня ў законе на адказнасьць дзяцей за ўхіленьне ад уплаты алімэнтаў бацьком (арт. 232-а КК паказвае толькі на ўхіленьне ад уплаты алімэнтаў дзецям), НКЮ

растлумачвае, што ў выпадку выяўленьня злоснага ўхіленьня ад уплаты сродкаў на ўтрыманьне непрацаздольным бацьком, на што ёсьць выканаўчы ліст народнага суда, трэба прыцягваць адказчыкаў да крымінальнай адказнасьці па 6-232-а арт. КК (па аналёгіі).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *П. Валасевіч.*

1 лістапада 1929 г.
№ 77.

---

## 10. Пастанова Калегіі Народнага Камісарыяту Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі БССР

**па пытаньню ўвядзеньня ва ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах БССР адзінай сыстэмы кантролю за выкананьнем даручэньняў вышэйшых органаў, унутрыведамственных плянаў і распараджэньняў, а таксама аб парадку іх выкананьня.**

1. На падставе пастановы СНК БССР за 9 красавіка 1928 г. ва ўсіх дзяржаўных, каперацыйных і грамадзкіх установах БССР і ў Сталым Прадстаўніцтве пры Ўрадзе СССР—з 1 кастрычніка 1929 г. ўводзіцца адзіная сыстэма кантролю за выкананьнем даручэньняў вышэйшых органаў, аперацыйных плянаў ведамстваў і ўнутрыведамственных распараджэньняў, а таксама аднолькавы парадак выкананьня ўсіх заданьняў, паводле паказаных ніжэй правіл.

2. Кожнае ведамства і ўстанова вылучае або спэцыяльнага працаўніка для вядзеньня кантролю, або ўскладае гэты абавязак загадам па ўстанове на аднаго з адказных працаўнікоў па сумяшчальнасьці.

*Увага 1.* Пытаньне аб тым, у якіх установах павінны быць вылучаны спэцыяльныя супрацоўнікі і ў якіх магчыма даручэньне гэтага абавязку па сумяшчальнасьці,—рэгулюецца органамі НК РСІ ў парадку зацьвярджэньня штатаў устаноў.

*Увага 2.* Кантроль за выкананьнем партыйных заданьняў павінен быць пастаўлен асобна.

3. Вылучаны для вядзеньня кантролю адказны працаўнік, пасьля атрыманьня для выкананьня пастановы або заданьня ў 24-гадзінны тэрмін, дакладвае кіраўніку ўстановы аб сутнасьці атрыманага заданьня, пасьля чаго кіраўнік вызначае частку ўстановы, дзе гэта заданьне павінна быць выканана, а па магчымасьці—і непасрэднага выканаўцу. Ім-жа вызначаюцца цьвёрдыя тэрміны выкананьня як усяго заданьня, так і асобных яго працэсаў.

*Увага 1.* У тым выпадку, калі кіраўніком установы непасрэдны выканаўца заданьня ня вызначаны, дык апошні вызначаецца кіраўніком адпаведнай часткі ўстановы, аб чым паведамляецца вылучаны для кантролю супрацоўнік.

*Увага 2.* У выпадку неабходнасьці загадчык адпаведнай часткі або адказны выканаўца папярэдне вызначае тэрміны выкананьня паасобных частак заданьня, аб чым паведамляецца ў 2-дзённы тэрмін супрацоўнік, вылучаны для кантролю.

4. Даручэньні вышэйшых органаў незалежна ад спосабу (апублікаваньне ў друку, агульная рассылка пратаколаў і г. д.), у сілу якіх яны сталі вядомымі ў данай установе, а таксама і ўсе ўнутрыведамственныя плянавыя і пазаплянавыя распараджэньні, абавязкова бяруцца вылучаным супрацоўнікам на падлік, праз занясеньне іх на кантрольную картку.

Форма карткі і правілы яе запаўненьня ў адносінах даручэньняў вышэйшых урадавых і інш. органаў—застаецца раней абвешчаная ў п. 4 пастановы Калегіі НК РСІ за 9|VI-1928 г. (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 7).

Для ўсіх унутрыведамственных плянавых і інш. заданьняў уводзіцца спрошчаная групавая картка наступнай формы (гл. дадатак).

5. Установа, атрымаўшая заданьне, пасылае вышэйшаму органу ў трафарэтызаванай форме паведамленьне аб атрыманьні гэтага даручэньня. Паведамленьне павінна ў сабе зьмяшчаць: дату атрыманьня, пасаду і прозьвішча непасрэднага выканаўцы і тэрмін выкананьня.

*Увага.* У тым выпадку, калі ўстанова лічыць вызначаны цьвёрды ці арыентыровачны тэрмін выкананьня данага даручэньня няправільным, яна павінна, адначасова з паведамленьнем аб атрыманьні заданьня, паставіць перад адпаведным вышэйшым органам пытаньне аб неабходнасьці перагляду тэрміну, паказаўшы пры гэтым здавальняючы яе тэрмін, з канкрэтным абгрунтаваньнем гэтае просьбы.

6. У тым выпадку, калі ўстановы, на ўзгадненьне якіх быў пасланы праект пляну або заданьня, не даюць адказу ў вызначаны тэрмін, дык гэтым самым пытаньне лічыцца ўзгодненым. Адказнасьць за магчымыя вынікі, дзякуючы адсутнасьці фактычнага ўзгадненьня, нясе кіраўнік установы, які ня даў адказу ў вызначаны тэрмін.

*Увага.* У выпадках несваячасовага і недакладнага выкананьня заданьня або пляну і пры ўсялякіх затрымках ва ўзгадненьні і зацьверджаньні вылучаны для вядзеньня кантролю супрацоўнік дакладвае аб гэтым кіраўніку ўстановы.

7. Часткі ўстановы, ведаючыя складаньнем аперацыйных плянаў, як па ўстанове ў цэлым, так і па паасобных частках, прадстаўляюць вылучанаму для кантролю супрацоўніку плянавыя карткі, у якіх павінна быць паказана: заданьне, расчляненьне заданьня, тэрміны выкананьня, выканаўцы, а таксама ўстановы і грамадзкія арганізацыі, якія прыцягваюцца да ўдзелу ў гэтай рабоце.

8. На вылучаных па вядзеньню кантролю супрацоўнікаў ускладаецца абавязак па сыстэматычнаму нагляду за сваячасовасьцю выкананьня ўсіх узятых на падлік даручэньняў і плянаў, а таксама праверка ў выбарачным парадку па вызначаных кіраўнікам установы аб'ектах выкананьня па сутнасьці.

9. У мэтах ажыцьцяўленьня шырокага масавага кантролю за працай дзяржапарату для кантролю за выкананьнем прыцягваецца грамадзкасьць данай установы, якой павінна быць забясьпечана магчымасьць фактычнага ўдзелу ў працы па кантролю за выкананьнем. Да гэтай работы павінны быць прыцягнуты ў першую чаргу часовыя кантрольныя камісіі, а таксама эканомкамісіі ўстановы.

10. У парадку выкананьня прынятага даручэньня або ўнутрыведамственнага распараджэньня адказнаму выканаўцу, на якога ўскладзена непасрэднае выкананьне гэтага заданьня, даюцца правы:

а) права подпісу ўсіх складзеных ім дакладаў і дакумэнтаў, незалежна ад таго, куды гэтыя дакумэнты накіроўваюцца;

б) права дакладу аб праведзенай працы непасрэдна тэй службовай асобе, для якой гэта работа прызначаецца (з ведама кіраўніка адпаведнай часткі ўстановы);

в) права непасрэднага атрыманьня перапіскі і дакумэнтаў, уваходзячых у кола функцый, вызначаных гэтаму выканаўцу.

11. У парадку выкананьня прынятых даручэньняў кіраўнікі паасобных частак і груп установы нясуць пэрсанальную адказнасьць:

а) за сваячасовае прыняцьце мер да зьнішчэньня перашкод, затрымліваючых выкананьне заданьняў;

б) за сваячасовасьць і якасьць інструктажу па даных дырэктывах і заданьнях;

в) за правільнасьць ажыцьцяўленьня атрыманай ім ад кіраўніка установы дырэктывы;

г) за узгодненую з другімі аддзеламі і часткамі прапрацоўку атрыманага заданьня;

д) за адсутнасьць сыстэматычнага нагляду за працай выканаўцы як з боку якасьці працы, так і вызначаных тэрмінаў.

12. У выпадках устанаўленьня фактаў няправільнага і несваячасовага выкананьня заданьняў і плянаў, вінаватыя ў гэтым службовыя асобы, незалежна ад іх месца ва ўстанове, павінны прыцягвацца кіраўнікамі ўстановы да адказнасьці ў дысцыплінарным парадку.

*Увага 1.* У выпадках, калі па прычыне несваячасовага або недабраякаснага выкананьня заданьня нанесена страта інтарэсам дзяржавы—непасрэдны выканаўца гэтага заданьня павінен аддавацца пад суд.

*Увага 2.* Апроч дысцыплінарных і судовых спагнаньняў, павінны таксама прымацца меры грамадзкага ўзьдзейнічаньня праз адпаведныя грамадзкія арганізацыі і друк.

13. З увядзеньнем гэтай пастановы скасоўваецца (за выключэньнем п. 4) пастанова Калегіі НК РСІ БССР за 9/VI 1928 г. (Бюл. СНК БССР 1928 г. № 7).

Нам. Народнага Камісара Рабоча-Сялянскай
Інспэкцыі БССР *Конанаў.*

12 верасьня 1929 г.

*Дадатак.*

| №№ арт. | Дата | № | Кім дадзена даруч. | Кароткі зьмест | № справы | Выканаўца | Тэрмін | Рух спр. | Факт. выкан. | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | |

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

### пра забарону паляваньня на выдру на тэрыторыі БССР.

Прымаючы пад увагу катастрафічнае зьмяншэньне выдры на ўсёй тэрыторыі БССР, што канстатуецца, матарыяламі працы Ўсебеларускага Зьезду лясных спэцыялістых у красавіку м-цы г. г., а таксама і Зьездам Упаўнаважаных Белкахотсаюзу ў ліпені м-цы г. г., Народны Камісарыят Земляробства для далейшага захаваньня і павялічэньня асноўнага фонду гэтага каштоўнага віду пушной часткі паляўнічай

фаўны пастанаўляе забараніць паляваньне на выдру і гандаль сьвежазьнятаю скураю на ўсёй тэрыторыі БССР на 3 гады, пачынаючы з 1 сьнежня 1929 г. да 1 сьнежня 1932 г.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР *К. Масюкоў.*

За Заг. Ляснога Кіраўніцтва НКЗ БССР *Пятрўшын.*

5 лістапада 1929 г.

---

## 12. Абежнік Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі БССР і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра зьмену абежніка свайго за 13|XI 1928 г., № 7 „Пра парадак адчыненьня скураных прадпрыемстваў прыватнымі асобамі і арганізацыямі“.**

П. 7 абежніку за 13|XI 1928 г. № 7 зьмяніць, запісаўшы яго ў наступнай рэдакцыі:

„7. Скураныя прадпрыемствы, адчыненыя без дазволу ВСНГ БССР, падлягаюць зачыненьню, а вінаватыя ў адчыненьні асобы прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым парадку, паводле арт. 152 Крым. Код“.

У адпаведнасьці з гэтым, памянёны абежнік у новай рэдакцыі зьмяшчаецца ў дадатку.

Дадатак. Абежнік за 13|XI 1928 г. № 7 у новай рэдакцыі.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР *Баль.*

Нам. НК Гандлю БССР *М. Абрамсон.*

9 лістапада 1929 г.
№ 5.

---

*Дадатак.*

## Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

**пра парадак адчыненьня скураных прадпрыемстваў прыватнымі асобамі і арганізацыямі.**

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам па мясцовай прамысловасьці і акруговым інспэкцыям гандлю.*

Для разьвіцьця пастановы Эканамічнай Нарады пры СНК БССР за 15 сакавіка 1928 г. (прат. № 9, арт. III) і паводле пастановы Эканамічнай Нарады за 28 верасьня 1928 г. (прат. № 32, арт. V) у мэтах плянавага кіраваньня скуранай прамысловасьцю вызначаецца наступны парадак дазволу на адчыненьне скурапрадпрыемстваў прыватным асобам і арганізацыям:

1. Дазвол на адчыненьне новага або пераабсталяваньне ці капітальны рамонт існуючага скуранага прадпрыемства прыватным фізычным і юрыдычным асобам даецца ў кожным паасобным выпадку выключна па пастанове ВСНГ БССР.

2. Заявы прыватных асоб і мясцовых арганізацый падаюцца праз адпаведную акруговую інспэкцыю мясцовай прамысловасьці, якая са сваім заключэньнем накіроўвае яе ў ВСНГ БССР на канчатковае вырашэньне.

3. У выпадку, калі ўноў адчыненае скуранае прадпрыемства не адпавядае палажэньню НК Працы аб ахове працы, калі па іншых мясцовых умовах адчыненьне прадпрыемств зьяўляецца немэтазгодным, акруговая інспэкцыя мясцовай прамысловасьці мае права непасрэдна і канчаткова вынесьці пастанову аб адмове.

4. Цэнтральныя арганізацыі (Белсампрамсаюз, Белсаюз інвалідна-каперацыйных аб‘яднаньняў, Цэнтральнае Праўленьне працкалектываў, а таксама АВК) свае праекты адчыненьня скураных прадпрыемстваў падаюць непасрэдна ў ВСНГ БССР.

5. Разам з хадайніцтвам аб дазволе павінны падавацца зьвесткі пра месцы, дзе мяркуецца адчыніць прадпрыемства, лік рабочых, род і магутнасьць мэханічных рухавікоў, род вырабу і разьмер сыравіннае вытворчасьці, а таксама зьвесткі аб пашырэньні ці рамонту.

6. Пры выдачы дазволу на адчыненьне прадпрыемства, прыватныя асобы і арганізацыі павінны даць падпіску аб рэалізацыі скуранай прадукцыі, а таксама аб загатоўцы сыравіны (у выпадку паасобнага на то дазволу) па цэнах, устаноўленых НК Гандлю.

7. Скураныя прадпрыемствы, адчыненыя без дазволу ВСНГ БССР, падлягаюць зачыненьню, а вінаватыя ў адчыненьні асобы прыцягваюцца да адказнасьці ў судовым парадку, паводле арт. 152 Крым. Кодэксу.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнае Гаспадаркі БССР *С. Карп.*

Народны Камісар Гандлю БССР *Адамайціс.*

13 лістапада 1928 г.
№ 7.

---

## 13. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

**пра дапаўненьне Інструкцыі свае за 30/IV 1929 г. № 31 „пра ўжываньне пастановы ЦВК і СНК СССР“ за 20 лютага 1929 г. „пра парадак ужываньня Кодэксу Законаў аб Працы у кулацкіх гаспадарках“.**

Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе дадаць да арт. 1 інструкцыі свае за 30/IV 1929 г. № 31 (Бюл. СНК, 1929 г., № 6) абзац 2-гі ў наступнай рэдакцыі:

„Наймальнік мае права звольніць рабочага (работніцу), нанятага для сталай работы (звыш 6 месяцаў) і пасьля зыходу тэрміну працоўнага дагавору толькі са згоды прафэсійнага саюзу, калі працоўны дагавор зроблен з прафэсійным саюзам, і толькі са згоды сельскага савету, калі працоўны дагавор зроблен беспасрэдна з рабочым (работніцай)“.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР *Д. Захарава.*

Старшы Сельска-Гаспадарчы
Інспэктар НКП БССР *Л. Лашкевіч.*

5 кастрычніка 1929 г.
№ 170.

---

Час. вык. аб. Адказнага Рэдактара **С. Лодысеў.**